# Голас Радзімы

№ 36 (2074)
8 верасня 1988 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.



Чым заняцца ў вольны час! Гэтае пытанне, бадай, не стаіць перад тымі людзьмі, якія маюць нейкае захапленне. У Слоніме, напрыклад, існуе шмат аматарскіх аб'яднанняў, члены якіх заняты краязнаўствам, пошукам і збіральніцтвам прадметаў матэрыяльнай культуры народа. У Генадзя **ДЗЯДЗЕЧКІНА**, слонімскага настаўніка (яго вы бачыце на здымку), багатая калекцыя самавараў, якія ён, дарэчы, сам і рэстаўрыраваў.

Знаходкі і калекцыі аматараў нярэдка папаўняюць экспазіцыю мясцовага музея.

Фота С. КРЫЦКАГА.

КАСМІЧНЫЯ ДАСЛЕДАВАННІ

# У ПАЛЁЦЕ МІЖНАРОДНЫ ЭКІПАЖ



29 жніўня 1988 года ў Савецкім Саюзе зроблены запуск касмічнага карабля «Саюз ТМ-6».

Карабель пілатуе міжнародны экіпаж: камандзір двойчы Герой Савецкага Саюза лётчык - касманаўт СССР Уладзімір Ляхаў, урач - даследчык Валерый Палякоў і касманаут-даследчык грамадзянін Рэспублікі Афганістан Абдул Ахад Маманд.

Савецка - афганскі касмічны палёт ажыццяўляецца ў адпаведнасці з дагаворанасцю паміж урадамі Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік і Рэспублікі Афганістан.

Уладзімір Ляхаў нарадзіўся ў 1941 годзе ў горадзе Антрацыт Варашылаўградскай вобласці. Мае вышэйшую ваенную адукацыю, кваліфікацыю «ваенны лётчык І класа» і «лётчык-выпрабавальнік 3 класа». У 1967 годзе Уладзімір Ляхаў быў залічаны ў атрад касманаўтаў, ужо зрабіў два касмічныя палеты: першы — працягласцю 175 сутак — у 1979 годзе на караблі «Саюз-32» і арбітальнай станцыі «Салют-6», другі — працягласцю 150 сутак — у 1983 годзе на караблі «Саюз Т-9» і арбітальнай станцыі «Салют-7».

Валерый Палякоў нарадзіўся ў 1942 годзе ў Туле. Скончыў 1-шы Маскоўскі медыцынскі інстытут. Затым працаваў у розных навукова-даследчых інстытутах і арганізацыях. Зарэкамендаваў сябе здольным і эрудзіраваным спецыялістам у галіне касмічнай медыцыны. Неаднаразова прымаў удзел у медыцынскім забеспячэнні пілатуемых палётаў на касмічных караблях «Саюз» і арбітальных станцыях «Салют». Ён кандыдат медыцынскіх навук, працуе ў Інстытуце медыка - біялагічных праблем Міністэрства аховы здароўя СССР. Да касмічных палётаў Валерый Палякоў пачаў рыхтавацца з 1972 года.

Грамадзянін Рэспублікі Афганістан Абдул Ахад Маманд нарадзіўся ў 1959 годзе ў пасёлку Сарда Шангарскага раёна правінцыі Газні. Вучыўся ў Кабульскім політэхнічным інстытуце. Абдул Ахад Маманд — член Народна - дэмакратычнай партыі Афганістана. У 1973 годзе быў прызваны ў армію і накіраваны ў Савецкі Саюз для атрымання ваеннай адукацыі. Пасля сканчэння ваеннага вучылішча лётчыкаў служыў у Ваенна-паветраных сілах Афганістана. У лютым 1988 года Абдул Ахад Маманд пачаў трэніроўкі да сумеснага савецка-афганскага палёту ў Цэнтры падрыхтоўкі касманаўтаў імя Ю. Гагарына. Прайшоў курс падрыхтоўкі да палёту на караблі «Саюз ТМ» і арбітальным комплексе «Мір».

У адпаведнасці з праграмай палёту 31 жніўня 1988 года ажыццёўлена стыкоўка касмічнага карабля «Саюз ТМ-6» з навуковае - даследчым комплексам «Мір» і пачата правядзенне на яго борце навуковых даследаванняў і эксперыментаў сумесна з касманаўтамі Уладзімірам Цітовым і Мусой Манаравым, якія з 21 снежня 1987 года працуюць на калязямной арбіце.

Экіпаж экспедыцыі наведання выканаў вялікі аб'ём медыцынскіх эксперыментаў, распрацаваных з улікам спецыфікі касмічных палётаў. Даследаваліся асаблівасці стану апорна-рухальнай сістэмы чалавека ў бязважкасці, ацэньваліся працаздольнасць і якасць аператарскай дзейнасці касманаўтаў. Палякоў і Маманд пачаргова правялі эксперымент «Лабірынт», мэтай якога з'яўляецца даследаванне ўзаемадзеяння вестыбулярнага апарата і зрокавай сістэмы чалавека ва ўмовах касмічнага палёту.

Уладзімір Цітоў і Муса Манараў з выкарыстаннем створанай савецкімі і сірыйскімі спецыялістамі апаратуры «Босра» і балгарскага фатометра «Тэрма» выконваюць серыю эксперыментаў па далейшаму вывучэнню фізікі зямной атмасферы. Вынікі даследаванняў дазволяць атрымаць новую інфармацыю аб фізічных працэсах, якія адбываюцца ў верхніх слаях атмасферы і іанасферы.

**НА ЗДЫМКУ: камандзір экіпажа лётчык-касманаўт СССР, двойчы Герой Савецкага Саюза У. ЛЯХАЎ (у цэнтры), урач В. ПАЛЯКОЎ, грамадзянін Рэспублікі Афганістан касманаўт-даследчык Абдул Ахад МАМАНД.**

БЫТАВАЯ ТЭХНІКА

## МІЛЬЁН «ВІЦЯЗЯЎ»

Арыенцір на лепшыя сусветныя ўзоры дазволіў значна павысіць якасць серыйнай мадэлі тэлевізара «Віцязь Ц-381Д», выпускаемай Віцебскім тэлевізійным заводам. З канвеера прадпрыемства сышоў мільённы апарат.

Павялічыць вытворчасць бытавой тэхнікі, якая карыстаецца попытам у пакупнікоў, дапамаглі актывісты камісіі па якасці. Клапоцячыся пра гонар маркі, завадчане ўнеслі нямала прапаноў па ўдасканаленню канструктарскіх і тэхналагічных распрацовак, зрабілі больш жорсткім уваходны кантроль, павысілі культуру працы, улічылі прэтэнзіі дзяржпрыёмкі і спажыўцоў. Прыёмнік, вага якога амаль удвая меншая, чым у папярэдніка, пры выпрабаванні на надзейнасць служыць цяпер амаль на дзве тысячы гадзін даўжэй, чым прадугледжана нарматывам. Нядаўна яму прысвоены дзяржаўны Знак якасці. Калектыў паспяхова рэалізуе праграму па расшырэнню службы сервісу.

Цяпер завадчане нарошчваюць выпуск новай прадукцыі, якая прыцягнула ўвагу і гандлёвых фірм сацыялістычных краін. Толькі ў Балгарыю сёлета намечана адправіць некалькі тысяч апаратаў.

ГАНДАЛЬ



**«Ярынка» — так названы новы магазін-кааператыў, які адкрыўся ў Мінску. Ён прадае тавары кааператараў з Беларусі, Прыбалтыкі і Арменіі. Ідуць перагаворы з прадстаўнікамі некалькіх польскіх фірм на пастаўку тавараў з ПНР.**
**НА ЗДЫМКУ: новы магазін «Ярынка» на вуліцы Няміга.**

ПАДАРУНАК З ЗША

## НАСЕННЕ НАДЗЕІ

«Насенне надзеі і міру» — такім надпісам была пазначана бандэроль, якая прыйшла ў Беларускі камітэт абароны міру. Дэвід і Ліна Зейгеры з амерыканскага горада Франклін у сваім пісьме растлумачылі, што гэтым сціплым дарам — насеннем любімых імі кветак наготак — яны жадаюць унесці канкрэтны ўклад у справу ўмацавання ўзаемнага даверу паміж народамі СССР і ЗША. Пра Беларусь яны даведаліся ад знаёмай, якая вярнулася з паездкі ў нашу рэспубліку і расказала пра шчырасць, міралюбнасць яе людзей.

На сустрэчы работнікаў і актывістаў камітэта з настаўнікамі замежных моў Ленінскага раёна Мінска «насенне надзеі і міру» было перададзена іх вучням.

СВЯТА ТРАДЫЦЫЙ

## «ДЗЕНЬ МАЙСТРА»

Здаецца, усе таленты, на якія здатны наш народ, былі прадстаўлены ў музеі атэізму і гісторыі рэлігіі ў Гродне. «Дзень майстра», які стаў традыцыйным, **сабраў тут славутых** і не вельмі пакуль вядомых ткачых і вышывальшчыц, разьчыкаў па дрэву і жывапісцаў, ганчароў і кавалёў не толькі з Гродна, але і з іншых месцаў рэспублікі. Керамічныя цацкі, творы дробнай пластыкі прывезла з Барысаўскага раёна Праскоўя Шматко. Са сваім майстэрствам знаёміла ўсіх жадаючых старэйшая карункачніца з Воранаўскага раёна Ядвіга Лісавец. А студыя пры гродзенскім Палацы культуры хімікаў дэманстравала работы дарослых і дзяцей, якія вучацца сакрэтам традыцыйных беларускіх промыслаў і рамёстваў...

Сотні жыхароў і гасцей горада на Нёмане сталі не проста гледачамі, а паўнапраўнымі стваральнікамі свята. Яны ўдзельнічалі ва ўсіх вясёлых задумах і аўкцыёне, які праводзіла Гродзенскае аддзяленне Беларускага фонду культуры. Сродкі ад яго пойдуць на стварэнне матэрыяльнай базы для народных промыслаў. У заключэнне ўмельцы, работнікі ўстаноў культуры, гледачы абмеркавалі праблемы і перспектывы развіцця традыцыйных рамёстваў.

АДКРЫТА ВУЧЫЛІШЧА

## РЭСТАЎРАТАРЫ З МІРА

Адразу памаладзеў старадаўні беларускі гарадок Мір: сотні абітурыентаў, учарашніх школьнікаў з усёй рэспублікі, прыехалі паспытаць шчасця ў мастацка-рэстаўрацыйным вучылішчы, якое адкрываецца тут.

Будучыя дэкаратары-афарміцелі, сталяры-разьчыкі па дрэву, рэстаўратары помнікаў мураванага дойлідства, маляры-мастакі альфрэйных работ трымаюць першы экзамен — па мастацкаму або тэхнічнаму рысунку. Справа гэта для паступаючых цалкам знаёмая, бо за плячамі ў многіх мастацкія школы, дзіцячыя студыі выяўленчага мастацтва.

Новае вучылішча — першая навучальная ўстанова такога профілю ў рэспубліцы. У ім будуць авалодваць сакрэтамі майстэрства 720 навучэнцаў, а сёлета навучэнцамі стануць 210 юнакоў і дзяўчат.

Ажыццяўленне намечанай у Беларусі шырокай праграмы рэстаўрацыі і рэгенерацыі гістарычных цэнтраў дзесяткаў старадаўніх гарадоў, аднаўленне помнікаў культуры ў многім тармозіцца з-за адсутнасці кваліфікаваных кадраў. Новае вучылішча ліквідуе гэты дэфіцыт. Першым «палігонам» для сур'ёзнай практычнай работы навучэнцаў стане палацава-замкавы комплекс.

НАПЯРЭДАДНІ ПАДЗЕІ

# ПРАЗ ВЫСТАЎКУ— НА ЭКСПАРТ

**ПЛОШЧУ 500 КВАДРАТНЫХ МЕТРАЎ ЗОЙМЕ ЭКСПАЗІЦЫЯ БЕЛАРУСКАЙ ССР НА ТРАДЫЦЫЙНЫМ МІЖНАРОДНЫМ УНІВЕРСАЛЬНЫМ КІРМАШЫ, ЯКІ ПАЧНЕЦЦА 11 ВЕРАСНЯ Ў ЮГАСЛАЎСКІМ ГОРАДЗЕ ЗАГРАБЕ.**

Самай характэрнай асаблівасцю беларускай экспазіцыі стануць электронныя машыны навукова-вытворчага аб'яднання «Планар».

— Абсталяванне, якое мы адправілі ў Заграб, не мае айчынных аналагаў у галіне аўтаматызацыі зборкі інтэгральных схем, — лічыць А. Лукашоў, адзін з вядучых спецыялістаў аб'яднання. — Можна абсалютна дакладна сказаць, што яно адпавядае сусветнаму ўзроўню.

— У свой час на пастаўку нам вырабаў такога тыпу Захадам было накладзена «эмбарга», таму мы самастойна распрацавалі сваё арыгінальнае абсталяванне і ўжо змаглі насыціць ім унутраны рынак, — расказвае кіраўнік выставачнай групы НВА «Планар» у Заграбе Г. Кузьмічоў, — нядаўна паявілася магчымасць прадстаўляць яго і замежным пакупнікам.

Наша аб'яднанне — навічок на міжнародным рынку. І хоць прадукцыя «Планара» пабывала на такіх прэстыжных выстаўках, як «Прадуктронік-83» у Мюнхене, на Лейпцыгскім кірмашы, на выстаўцы ў Гановеры, а ў Познані атрымала два залатыя медалі, знешнегандлёвага вопыту ў нас усё ж малавата. А менавіта ён у значнай ступені вызначае камерцыйны поспех. І ўсё ж якраз тыя вырабы, якія будуць экспанавацца ў Заграбе, закуплены і пачалі працаваць на прадпрыемствах «Тэслы» ў Чэхаславакіі, сумеснай венгерска-савецкай фірмы «Інтэрмас». Нядаўна вяліся перагаворы з прадстаўнікамі яшчэ адной фірмы. Мы разлічваем, што яна і іншыя прадпрыемствы звернуць сур'ёзную ўвагу на нашу прадукцыю. Можна сказаць, што «Планар» ужо зрабіў сабе імя ў галіне дакладнага машынабудавання краін сацыялістычнай садружнасці.

Стэнд вырабаў НВА «Планар» — адзін з васьмі раздзелаў, якія складуць беларускую экспазіцыю. Візітныя карткі прадпрыемстваў, што атрымалі права самастойна ажыццяўляць экспартна-імпартныя аперацыі, раскажуць аб прадукцыі знешнегандлёвых фірм «Бабруйскшынэкспарт», «Верас» вытворчага аб'яднання па выпуску бытавых халадзільнікаў «Атлант», «МЗОР-імпэкс» Мінскага станкабудаўнічага аб'яднання імя Кастрычніцкай рэвалюцыі, магілёўскага вытворчага аб'яднання «Строма ўталінія».

Арганізатары кірмашу прадастаўляюць у распараджэнне беларускага боку адкрытую пляцоўку, дзе размесцяцца прадукцыя вытворчых аб'яднанняў «БелаўтаМАЗ» і «Мінскі трактарны завод імя У. І. Леніна». Будуць паказаны аўтамабіль-шасі «МАЗ-5337», аўтамабіль-самазвал «МАЗ-5551», два грузавыя прычэпы да легкавых аўтамабіляў, розныя мадыфікацыі трактара «Беларусь».

На стэндзе навукі ў выглядзе натурных узораў і макетаў размесцяцца выназоды і адкрыцці вучоных рэспублікі, абароненыя аўтарскімі пасведчаннямі, патэнтамі за мяжой, некаторыя з іх не маюць зарубежных аналагаў.

У ходзе кірмашу ў Заграбе пройдзе Дзень Беларускай Рэспублікі. Падчас яго плануецца арганізаваць паказ прадукцыі Мінскага дома мадэлей, перад гасцямі і жыхарамі горада выступіць ансамбль «Свята» Беларускай дзяржаўнай філармоніі.

ВУЧОНЫЯ БЕЛАРУСКАГА ПОЛІТЭХНІЧНАГА ІНСТЫТУТА ПЕРАЙШЛІ НА НОВЫЯ ЎМОВЫ ФІНАНСАВАННЯ

# ПРАФЕСАР НА ГАСПАДАРЧЫМ РАЗЛІКУ

Прозвішча прафесара Валерыя Гуськова, загадчыка кафедры «Трактары» Беларускага політэхнічнага інстытута, становіцца ўсё больш вядомым не толькі на машынабудаўнічых заводах краіны, але і за мяжой. Заходнія фірмы, напрыклад, Італіі, запатэнтавалі серыю яго вынаходстваў па зубчастых і зубчаста-клінавых пасах. Выканаў гэтыя распрацоўкі шаноўны прафесар сумесна з калегамі: доктарам тэхнічных навук У. Байковым і кандыдатам тэхнічных навук Г. Казачэўскім. Цікавасць да навінкі беларускіх вучоных не выпадковая. Іх пасы можна параўнаць з «мускуламі» сучаснай тэхнікі. Адымеш такі прывад, і спыніцца, замрэ і сучасны камп'ютэр, і магутны, двухсоттонны «БелАЗ». Ва ўсім свеце лічыцца: чым больш дакладная і надзейная зубчаста-клінавая передача, тым і машына з ёю лепшая, вышэй каціруецца на міжнародным рынку. Пасы беларускіх вучоных аказаліся на рэдкасць трывалымі. Могуць служыць да 25 гадоў (больш, чым сама тэхніка). І, дарэчы, па якасных характарыстыках нічым не ўступаюць японскім аналагам, якія за валюту купляе наша краіна.

— Ну і як прамысловасць аднеслася да распрацоўкі? — цікаўлюся я ў Гуськова.

— На гэты раз няблага, — усміхаецца Валерый Уладзіміравіч. — Аб'яднанню «Беларусьгуматэхніка» перададзена ўся тэхналогія і канструкцыя прэс-форм для асваення і серыйнага выпуску зубчастых сістэм.

Што ж, можна павіншаваць прафесара з удачай. Бо яшчэ нядаўна здаралася і па-іншаму. Ліцэнзію ў вучоных з таго ж БПІ набывала заходняя фірма і хутка асвойвала навінку. А мы вымушаны былі закупляць утрая даражэй сваю ж, але рэалізаваную за мяжой ідэю. Айчынная ж прамысловасць ніяк не магла разварушыцца і зрабіць патрэбную справу.

У Беларускім політэхнічным інстытуце вырашылі пакласці канец гэтым недарэчнасцям, пазбавіць вучоных ад абрыдлых пакут укаранення наватарскіх ідэй. Яшчэ год назад пры інстытуце быў створаны завод «Палітэхнік». Спецыяльнае канструктарска-тэхналагічнае бюро існавала раней.

У выніку вучоныя навукова-даследчай часткі атрымалі палігон для рэалізацыі сваіх задум. Прафесар Гуськоў і яго калегі за невялікі час увасобілі сваю распрацоўку ў ж… ё, далі прамысловасці гат… ўзор. І тая ахвотна прыняла вынаходствы вучоных.

Дапамог завод і СКТБ не толькі гэтай групе вучоных. У інстытуце былі створаны доследныя ўзоры многіх відаў тэхнікі.

—І ўсё ж мы не надта аказаліся задаволенымі, — расказвае прарэктар па навукова-даследчай рабоце БПІ, доктар тэхнічных навук М. Стралюк. — Многа яшчэ заставалася няўвязак паміж нашымі завадчанамі, канструктарамі і вучонымі. У кожнага былі свае эканамічныя інтарэсы. Аб'яднанне партнёраў адміністрацыйнымі метадамі не заўсёды прыносіла карысць.

Таму і вырашылі выкарыстаць для гэтага поўны гаспадарчы разлік, стварыць інстытуцкае навукова-тэхнічнае аб'яднанне на ўмовах самафінансавання.

— Прафесара, быццам радавога заводскага інжынера, хочаце пасадзіць на гаспадарчы разлік? — абураліся некаторыя дзеячы навукі. — Гэта абсурд!

Але большасць сур'ёзных вучоных, у тым ліку і група Валерыя Гуськова, падтрымалі ідэю, убачылі ў ёй магчымасць узняць на шчыт сапраўдных даследчыкаў, ачысціцца ад навуковага баласту.

Лямантавалі ж у асноўным тыя, хто не хацеў абцяжарваць сябе лішнімі клопатамі з прамысловасцю. У многіх вышэйшых навучальных установах, дарэчы, расцвіла сапраўдная папярова-рэкамендацыйная хвароба. Вучоныя пісалі, раілі, кансультавалі і жылі самі па сабе, а практыка працавала па старых тэхналогіях.

Цяпер даследчыкі інстытута ўсё ж перайшлі на поўны гаспадарчы разлік. Мы доўга хадзілі па лабараторыях, кафедрах, гутарылі з людзьмі. Уражанне такое, што навукоўцы быццам атрасаюцца ад старой, дагматычнай «ціны», што нарастала гадамі, дзесяцігоддзямі. Раней баяліся брацца за буйныя пагадненні, улазіць у адказныя кантакты з прамысловасцю. Гульня, як кажуць, не была таго вартая. Зараз устарэлыя абмежаванні зняты. І неяк раптоўна пачалі раскрывацца сапраўдныя таленты. Скажам, навуковая лабараторыя па мікраэлектроніцы забяспечвае надзейнымі блокамі ўсю прамысловасць краіны. Цяпер заказчыкі для сваіх вучоных самі пачынаюць будаваць новы завод.

— Да нас хлынулі прадстаўнікі многіх заводаў, — дзеліцца ўражаннямі кіраўнік навукова-даследчай часткі БПІ, кандыдат тэхнічных навук У. Каралюк. — Стыхійна ствараюцца нефармальныя творчыя калектывы, распрацоўваюцца цікавыя пагадненні. Вучоныя імкнуцца стаць надзейнымі партнёрамі.

І гэта не выпадкова. Грошы цяпер не проста падаюць зверху, фінансуецца не ўстанова ў цэлым, як было раней. Сродкі на існаванне і развіццё трэба зарабіць па-сапраўднаму, без халтуры. Інакш заказчык скасуе дагавор.

Дарэчы, навукоўцы зацікаўлены дзейнічаць энергічна. Бо, скажам, атрыманая эканомія фонду заработнай платы накіроўваецца ў фонд матэрыяльнага заахвочвання.

Аб'ём работ, выконваемых калектывамі па дагаворах з прадпрыемствамі, вызначаецца імі самімі, а аплата робіцца па дагаворных цэнах. Фонд зарплаты па гэтых работах утвараецца па стабільнаму нарматыву ад аб'ёму работ, выкананых уласнымі сіламі. Тым самым стымулюецца правядзенне большага аб'ёму гаспадарча-дагаворных работ, выкананых ула…і сіламі.

Навук… БПІ першымі сярод вучоных вышэйшых навучальных устаноў перайшлі на гаспадарчы разлік. Але следам за імі пакрочаць і іншыя. Так патрабуе час.

**Аляксандр ШАГУН.**

## КАЛЯ ГРЭБЛІ НА КЛАДКАХ

Гадоў трыццаць назад, калі на старасці аднаму амерыканцу, які да рэвалюцыі пакінуў сваю вёску Бычкі на Любаншчыне і адправіўся за акіян у пошуках заработкаў, захацелася наведаць родныя мясціны, ён у тэлеграме прасіў брата Калядку сустрэць яго каля Чортавай грэблі на кладках...

Няма цяпер таго балота. Заменена і назва вёскі. Яна называецца — Атраднае. І адпавядае гэтаму. З шасейкі сюды вядзе асфальтаваная дарога. А летам навокал — збажына, лапушыцца кукуруза, аксаміт травы. Побач са старой вёскай вырасла новая вуліца з прыгожымі жылымі дамамі сядзібнага тыпу. Не так даўно ў іх справілі наваселле дваццаць сем яў калгаснікаў, механізатараў.

Узначальвае калгас малады кіраўнік Леанід Каратчэня. 40 цэнтнераў збожжавых з гектара, 300 — бульбы стала тут звычайнай нормаи. Гаспадарка перайшла на спецыялізацыю па адкорму маладняку буйной рагатай жывёлы, рэалізуе ў год не менш 1 200 тон таннай ялавічыны.

І аб працаўніках вёскі праўленне праяўляе пастаянны клопат. Тут паспяхова вырашаюцца сацыяльныя праблемы.

З кожным годам на культурна-бытавое будаўніцтва павялічваюцца грашовыя асігнаванні. Сёлета на гэтыя мэты выдаткоўваецца 350 тысяч рублёў. Пачалося асфальтаванне ўнутрыгаспадарчых дарог і пад'ездаў да ферм. Будуецца спартыўна-аздараўленчы комплекс, са здачай якога ў эксплуатацыю пачнуць працаваць спартыўна-аздараўленчыя гурткі, секцыі.

## «ЧЫРВОНАЯ ЗОРКА» СПРАЎЛЯЕ ДАЖЫНКІ





Апусцелі палеткі дзяржплемзавода «Чырвоная зорка», што ў Клецкім раёне. Гаспадарка першая на Міншчыне завяршыла ўборку збожжавых культур. І атрымала на круг па 53 цэнтнеры. Гэта значна вышэй за сярэднюю ў вобласці.

Нялёгка дастаўся высокі ўраджай работнікам гаспадаркі. Вясной, у час сяўбы, стаяла халоднае надвор'е, у пачатку лета зачасцілі дажджы, а пасля моцныя вятры пакруцілі збажыну. І тым прыемней, што барацьбу за хлеб людзі выйгралі. Вось чаму так радасна і весела прайшло традыцыйнае свята «Дажынкі». На ім адбылося віншаванне лепшых працаўнікоў гаспадаркі, выступілі калектывы мастацкай самадзейнасці, прайшло народнае гулянне.

НА ЗДЫМКАХ: свята «Дажынкі» ў вёсцы Яновічы — цэнтры дзяржплемзавода «Чырвоная зорка»; дырэктар гаспадаркі Іосіф ПЛАЎСКІ віншуе пераможцаў жніва; выступаюць удзельнікі мастацкай самадзейнасці.

Фота М. МІНКОВІЧА.



# ДЭН ДРУ: «БУДЗЕМ БЕГЧЫ ПА АДНЫМ МАРШРУЦЕ...»

**Некалькі дзён гасціла ў беларускай сталіцы група амерыканскіх лёгкаатлетаў-аматараў — членаў грамадскай прагрэсіўнай арганізацыі «Бегуны міру» на чале са сваім кіраўніком 47-гадовым урачом з горада Джаспер у штаце Індыяна Дэнам Дру.**

**Прыезд у СССР амерыканскіх бегуноў абумоўлены іх удзелам у Маскоўскім міжнародным марафоне міру, што адбыўся ў жніўні. За дваццаць дзён, якія папярэднічалі гэтаму старту, групе Дэна Дру Савецкі ўрад прадаставіў магчымасць зрабіць падарожжа па нашай краіне, апошнім пунктам якога быў Мінск. Тут госці азнаёміліся са славутымі мясцінамі горада, мемарыяльным комплексам «Хатынь», пабывалі на Кургане Славы, сустрэліся з членамі клуба аматарскага бегу «Мінск» і рэспубліканскага спартыўна-патрыятычнага клуба звышмарафона «Радзіма». Адбыліся цікавыя гутаркі, сумесныя трэніроўкі. Перад ад'ездам у Маскву на марафон міру амерыканскія і савецкія бегуны арганізавалі прабег Дружбы вакол Камсамольскага возера.**

**Удзельнік гэтага прабегу, журналіст Аляксандр НІКАЛАЙЧАНКА пасля спаборніцтваў узяў інтэрв'ю ў Дэна ДРУ.**

## ЗА СВЕТ БЕЗ ГОЛАДУ



*— Віншую вас, Дэн, з удзелам у прабегу Дружбы. Дазвольце зрабіць вам камплімент: гэтыя шэсць кіламетраў вы прабеглі даволі лёгка...*

— Дзякуй. Бегаю так, як атрымліваецца. Многае тут залежыць ад настрою. А настрой у мяне добры. У Мінску я пазнаёміўся з сапраўднымі аматарамі бегу, цікавымі людзьмі. Дарэчы, і мы да свайго захаплення бегам ставімся вельмі сур'ёзна.

*— Дэн, вы ўзначальваеце грамадскую арганізацыю «Бегуны міру». Раскажыце, калі ласка, аб яе задачах і мэтах.*

— Ужо па назве можна меркаваць, што арганізацыя аб'ядноўвае спартсменаў-бегуноў і з'яўляецца міжнароднай. Наш дэвіз: «За свет без голаду». Успомніце: штодзённа ў розных краінах, асабліва ў Азіі, Афрыцы і Лацінскай Амерыцы, паміраюць ад голаду 40 тысяч чалавек. Зараз на планеце пражывае 4,9 мільярда землян. Па нашых падліках, нават тады, калі насельніцтва Зямлі вырасце к 2000 году да 7 мільярдаў чалавек, прадуктаў харчавання хопіць на ўсіх. Прычыны голаду не ў недахопе гэтых прадуктаў, а ў іх несправядлівым размеркаванні. Нам здаецца, што асобныя ўрады проста зацікаўлены, каб такое становішча працягвалася і далей. Значыць, нам усім, сумленным людзям Зямлі, трэба ў адзін голас заявіць: не—голаду, не—несправядліваму размеркаванню харчавання! І тады, я ў гэтым упэўнены, адна з самых надзённых праблем будзе вырашана...

*— Я згодны з вамі. Але ж ёсць яшчэ адзін і даволі істотны рэзерв у вырашэнні харчовай праблемы многіх краін і народаў. Неабходна спыніць гонку ўзбраенняў, якая з'ядае столькі сродкаў!..*

— Гэта сапраўды так. Гонка ўзбраенняў — бессэнсоўны і дарагі занятак. І хоць нашы краіны заключылі вядомы Дагавор аб ліквідацыі ракет сярэдняй і меншай дальнасці, трэба заставацца рэалістамі: гэта яшчэ толькі першы крок у патрэбным і важным кірунку. А дапамога галадаючым неабходна сёння, зараз. Таму грошы, якія мы збіраем на сваіх прабегах, накіроўваем на барацьбу з голадам у краінах трэцяга свету. Дарэчы, у гэтай барацьбе ў СССР і ЗША ёсць выда[illegible] зопыт дапамогі пацярпеўшым ад засухі ў Эфіопіі...

*— Ваша арганізацыя масавая?*

— Так. У ёй налічваецца больш як 14 тысяч чалавек. Яна мае філіялы ў трыццаці краінах, аб'ядноўваючы бегуноў-аматараў буйных гарадоў. У Маскве, напрыклад, у нашых шэрагах змагаюцца за свет без голаду і войнаў члены клуба аматараў бегу «Мір». Калі дзеці з вашых клубаў «Мінск» і «Радзіма» падзяляюць нашы погляды, яны таксама могуць стаць членамі арганізацыі «Бегуны міру». Будзем, як гаворыцца, бегчы па адным маршруце...

*— Несумненна, Дэн, нашы клубы падзяляюць гэтыя погляды. Мы таксама арганізоўваем прабегі, якія праходзяць пад дэвізам: «За свет без войнаў і гонкі ўзбраенняў», а гэта вельмі блізка па сэнсу з вашым дэвізам, які нам добра зразумелы. Бо наша краіна, якая перажыла за кароткі гістарычны адрэзак часу дзве спусташальныя вайны, ведае не па чутках, што такое голад. Што датычыць канкрэтнага ўкладу ў справу дапамогі галадаючым, дык мы, аматары бегу беларускай сталіцы, абавязкова абмяркуем гэтае пытанне разам з прадстаўнікамі Беларускага аддзялення Савецкага фонду міру і Беларускім камітэтам абароны міру, прымем рашэнне.*

— Гэта вельмі добра. Я і мае сябры пераканаліся, што ў Савецкім Саюзе простыя людзі таксама хочуць жыць у міры і дружбе з намі, амерыканскімі грамадзянамі, што яны таксама, як і мы, ненавідзяць вайну і голад. Да прыезду ў Мінск мы наведалі Тбілісі, Баку, Пяцігорск, Ялту, Кіеў, і ўсюды нашы бегуны гаварылі пра гэта. А Мінск, наколькі нам вядома, асабліва пацярпеў у час вайны. Глыбокае ўражанне на нас зрабіла Хатынь — адзіныя ў свеце могілкі вёсак. Вось чаму мы ўпэўнены, што сярод вас знойдзем саюзнікаў у вялікай, высакароднай справе. Прабег Дружбы—наш першы сумесны сімвалічны крок у гэтым напрамку.

**НА ЗДЫМКУ: амерыканскія бегуны ў Хатыні. Крайні справа — кіраўнік групы Дэн ДРУ.**

**Фота У. ЛІТОМІНА.**

*НА ЗЯМЛІ БАЦЬКОЎ*

# АГУЛЬНЫЯ НАДЗЕІ, АГУЛЬНЫЯ ПАМКНЕННІ

**Праз сорак чатыры гады ўпершыню зноў ступіла на зямлю, дзе нарадзілася і вырасла, спаткалася з роднай старонкай Аляксандра Нікіфарук — грамадзянка ЗША, жыхарка горада Буфала. Гэтым летам амаль месяц яна гасцявала ў сваякоў на Аршаншчыне.**

**З госцяй напярэдадні яе ад'езду сустрэўся наш карэспандэнт.**

Сашы Лапуновай (гэта яе дзявочае прозвішча) ішоў дваццаць першы год, калі ўзімку 1944-га яе забралі акупанты і змясцілі ў спецлагер у Оршы, каб затым адправіць у Германію.

...З усходу набліжалася ў Беларусь вызваленне, але эшалон, набіты дзяўчатамі-паланянкамі, упарта поўз на захад. Нарэшце ў далёкай Вестфаліі выбралася з катухоў таварных вагонаў на дзённае святло. Работа на вугальнай шахце — служанкай. Адносная, у параўнанні з лагерам, свабода: можна было мець зносіны з суайчыннікамі. Так наша зямлячка пазнаёмілася з украінскім хлопцам, такім жа нявольнікам. Яны пажаніліся.

— Сапраўднай свабоды для нас больш ужо не існавала, — расказвае Аляксандра Рыгораўна. — На ўсё была воля то адных, то другіх «гаспадароў». Пад канец вайны мы апынуліся ў англійскай акупацыйнай зоне. Нас застрашвалі, што на Радзіме чакае расправа, ставілі ўсялякія перашкоды, каб толькі мы не вярталіся дамоў. Да таго ж я чакала першынца. Выхад, як тады нам здавалася, б[illegible]дзін: ехаць у Амерыку, там аб[illegible]і работу і дастатак...

У пошуках надзейнага кавалка хлеба Нікіфарукі памянялі некалькі месцаў жыхарства, пакуль не аселі ў Буфала. Была ў мужа работа — жылі бя[illegible]на, хоць і не ў раскошы. Але, [illegible]алася, галава сям'і па некалькі месяцаў заставаўся без заробку, — тады бяда. Сціплыя зберажэнні раставалі на вачах, гняло пачуццё няўпэўненасці ў заўтрашнім дні. Добра, што так працягвалася нядоўга: муж меў «дэфіцытныя» спецыяльнасці слесара-сантэхніка, наладчыка халадзільных установак. Падгадаваўшы дзяцей (у іх дачка і сын), знайшла сабе работу і Аляксандра Рыгораўна — швачкай на фабрыцы.

Выручала ў цяжкія перыяды пачуццё зямляцтва. У ЗША пасялілася ў розны час шмат выхадцаў з нашай краіны. Жывуць яны даволі-такі арганізаванымі калоніямі-зямляцтвамі, падтрымліваюць адзін аднаго, раўніва берагаюць сваю мову і звычаі.

Госця расказала пра сённяшняе жыццё сваёй сям'і. Муж памёр з дзесяць гадоў назад. Дачка скончыла універсітэт, удала выйшла замуж у суседні гарадок. У Аляксандры Рыгораўны цяпер двое ўнукаў. Сын, закаранелы халасцяк, жыве пры маці. Ён, шафёр, цяпер беспрацоўны, праўда, верыць, што гэта ненадоўга. Матэрыяльнай дапамогі пакуль не атрымлівае — не выйшаў «стаж».

Жывуць маці і сын у дагледжаным асабняку. Абстаноўка ўнутры жылля (бачыў гэта на фотаздымках) такая ж, як у нашых гарадскіх кватэрах. «Вось толькі дываноў на сценах у амерыканцаў няма», — з усмешкай заўважыла госця.

— Апошнія гады я не працавала, хварэла. А каб хварэць, у Амерыцы трэба нямала плаціць...

Тут мы пачалі параўноўваць: як тое ці гэта ў іх, як у нас. Загаварылі пра моладзь. Неўпрыкмет перайшлі ўсё ж і на палітыку. Вось паасобныя рэплікі Аляксандры Нікіфарук:

— Спачатку я здзівілася, што ў вас у магазінах мала прадуктаў, небагаты асартымент тавараў. Аднак жа гляджу: халадзільнікі ва ўсіх поўныя!

— А моладзь, відаць, усюды падобная. Тое ж захапленне «металам», рокам. Тое ж непаслушэнства, пратэст супраць дарослых. Пракруціў вось днямі мне пляменнік «Кацюшу» на магнітафоне. Абурылася: як жа перайначылі добрую песню пад рок!..

А як хораша адвячоркам мы з сястрой і пляменніцамі спявалі на прызбе песні майго юнацтва —беларускія народныя, савецкія трыццатых гадоў!

— Простыя амерыканцы вітаюць барацьбу Савецкай дзяржавы за мір, за раззбраенне. Каб вы бачылі, якая ў нас была цікавасць да нядаўніх сустрэч на вышэйшым узроўні! У простых людзей ва ўсім свеце адны надзеі, адны памкненні.

— Амерыканцы адкрылі, нарэшце, для сябе савецкі народ у яго сапраўдным абліччы. Гэта дзякуючы кантактам, тэлемастам. Многія, чула не раз, так і гаварылі: «Дык яны ж такія ж людзі, як і мы, а не нейкія агрэсары!»

Заўважаю, што маю субяседніцу прытаміла размова. Час развітвацца, тым болей, што Аляксандры Рыгораўне сёння ў далёкую дарогу — праз Маскву ў Буфала. «Ці хацелі б застацца тут, на Радзіме»? — задаю пытанне, хоць наперад ведаю адказ. Так і ёсць: «Цяпер ужо позна. Большасць жыцця пражыта там, адвыкла жыць па-беларуску. І радзіма маіх дзяцей і ўнукаў — там. Позна...»

І на развітанне — пажаданне Аляксандры Нікіфарук землякам-аршанцам:

— Каб жыць у дастатку, каб быць удачлівымі і шчаслівымі, трэба многа працаваць. Так усё жыццё здабываў сабе і сям'і месца пад амерыканскім сонцам мой муж, іншыя перасяленцы. Дай жа бог вам, мае родныя, плёну ў працы! Астатняе ўсё прыдасца. І няхай міне нас, дзяцей і ўнукаў нашых вайна!..

**М. ДЗЕМІДОВІЧ.**

*ПІШУЦЬ ЗЕМЛЯКІ*

# МЫ ВІТАЕМ ПЕРАБУДОВУ

Паважаныя супрацоўнікі рэдакцыі газеты «Голас Радзімы»!

Проста не магу не падзякаваць вам за дваццаць сёмы нумар вашай газеты. З вялікай цікавасцю прачытаў я ў ім «Даклад Генеральнага сакратара ЦК КПСС М. С. Гарбачова на XIX Усесаюзнай канферэнцыі КПСС». Гэтая канферэнцыя стала адной з важнейшых падзей у гісторыі нашай вялікай Радзімы — Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. У выніку адкрытай і шчырай дыскусіі былі выпрацаваны галоўныя напрамкі пераўтварэнняў савецкага грамадства, на якія нацэліў краіну XXVII з'езд КПСС. Мяркуючы па тым, што мы цяпер можам прачытаць у прэсе, па дакладу М. С. Гарбачова і тых рэзалюцыях, якія прыняла канферэнцыя, відаць, што наша Радзіма стала на шлях рэвалюцыйных перамен. Словы «демократизация», «гласность», «перестройка» сёння гучаць па-руску ва ўсім свеце. І мы ўсе чакаем, што такая палітыка ленінскай партыі дасць вельмі добрыя вынікі. Зразумела, што пакуль не ўсё ідзе гладка і ў будучыні яшчэ будзе шмат цяжкасцей. Але радуе, што ўжо за кароткі тэрмін сталі відаць рэальныя поспехі. І асабліва прыемна, што плён гэтай новай палітыкі ўжо добра відаць у нашай Беларусі, што яна змагла за гэтыя гады рэзка павысіць прадукцыйнасць працы як у прамысловасці, так і ў сельскай гаспадарцы.

Мы вітаем перабудову і жадаем вам новых вялікіх поспехаў. Будзем рады, калі наша Радзіма стане самай развітой дзяржавай у свеце.

**Юрый РАСАДЗІНСКІ.**

Аўстралія.

# LA VERDAD NACE EN LA DISPUTA

**Por fin, hemos reconocido esta antigua máxima. Antes seguíamos otras: la verdad se proclama desde arriba, y los de abajo repiten el mismo estribillo cada uno a su manera. Ahora hemos visto la utilidad directa de la discusiòn sin impedimentos: desarrollándose con arreglo a sus leyes, ésta hinca los dientes en la médula de los fenómenos, los pone al desnudo y lleva a soluciones òptimas de los problemas.**

Un ejemplo de franca discusión fueron las labores desarrolladas en la XIX Conferencia del Partido. No es casual que, una vez finalizada, en nuestra prensa surgen cada vez más discusiones abiertas.

Tomemos, por ejemplo, el problema de los privilegios, planteado por "Pravda". El primer rotativo del país publica opiniones diversas, incluso diametralmente opuestas. Y cada **lector decide** por su cuenta quién tiene razón: el que exige acabar con los privilegios sociales, que especialmente irritan a la población, o el que afirma que nunca ha habido ni hay ningún tipo de privilegios.

"Pravda" dio también un buen ejemplo respecto a otro tema, publicando un artículo que criticaba al historiador Yuri Afanásiev y luego insertó su respuesta. Pero no opuso a la posición del historiador argumentos de peso, sino, aparentemente, jugó al ganapierde atrayendo a la discusión sucesiva. Y la respuesta fue el artículo de Igor Dedkov y Otto Lacis, conocidos colaboradores de "NM", igual que Yuri Afanásiev.

Pero, con lo justa que es la crítica de tales o cuales aspectos de nuestra vida, es imposible aceptar la exigencia de devenir un país **absolutamente distinto**, una sociedad absolutamente diferente: en primer lugar, porque ésta es mera utopía. La perestroika se está realizando, usando la fórmula leniniana, con el material que nos proporcionó la historia. Así que, incluso reestructurada, mejorada, nuestra sociedad será fácil de reconocer, con nuestras tradiciones y peculiaridades. Y ellas, en primer lugar, consisten en nuestros ciudadanos, quienes plasman el socialismo y sus valores imperecederos.

Hoy el arma de la glásnost se utiliza a profusión, aunque de diversas maneras. Es aleccionadora la discusión en torno a la glásnost en el periódico "Izvestia". Periodistas de Kirguizia y de la región de Yaroslavl comunicaron hechos concretos de amordazamiento de la crítica, el acosamiento de los telerreporteros por parte de las autoridades locales. Y en respuesta, por ejemplo, M. Sherimkúlov, secretario del CC del PC de Kirguizia, acusó a un periodista de altanería y arrogancia. Por cierto, el propio Sherimkúlov, en forma general, admitió las deficiencias "en ciertos lugares" y expresó la estereotipada gratitud a "Izvestia" por la crítica.

Publicando semejantes respuestas desde otras localidades, el rotativo procede de una manera lógica. Pero el mismo no es un buzón adonde se puede echar cualesquiera cartas. Además, no se puede tomar el pelo a los lectores. La redacción citó la carta de uno de ellos respecto a la "reacción" de Yaroslavl: "es una simple maniobra para ganar tiempo, mientras se apacigüen las pasiones". Y, respecto a la respuesta de Kirguizia, observó con pleno motivo: es un enfoque nuevo solo en su forma, pero en esencia es tristemente célebre.

Ya el sabio fabulista Krilov escribió del gato Vaska que, mientras escucha, sigue comiendo. Al respecto es oportuna la decisión del Pleno del CC del PCUS de celebrar una campaña de balance y elección en todo el partido para que "el ambiente de la conferencia, revolucionario por su esencia y democrático, el tono práctico, la franqueza y agudeza de las discusiones que se desplegaron en ella... impregnen toda la labor de las reuniones y conferencias del partido".

En estos días sigue siendo un objeto palpitante de discusión nuestra historia, concretamente, la figura de Nikita Jruschov. En dos números de "Znamia" se publicaron las memorias de su yerno Alexéi Adzhubéi, que contienen, entre otras cosas, hechos anteriormente desconocidos, valiosos para una caracterización objetiva de Jruschov. Sus méritos de pionero en cuanto a sacar al país al camino de la desestalinización son incuestionables. Y, al mismo tiempo, el retrato de Jruschov en el ensayo de Adzhubéi se nos antoja demasiado benigno. Una sensación de sabor y col[illegible] de época la devuelve el b[illegible]ite relato — publicado en [illegible]goniok" — de Mijail Romm, un "jruschovista" de ley, allí se habla de cómo su ídolo, que rechazaba cualquier crítica y solo atendía a sus aduladores iba perdiendo el sent[illegible]to de la realidad. Co[illegible]zó, señala Romm, precisamente cuando Jruschov dejó de percibir cualesquiera opiniones discrepantes y seguía en sus trece. La disconformidad cesaba, el coro de loas se incrementaba, Jruschov se deleitaba con la exaltación y la victoria, pero ésta — hoy está claro — resultaba pírrica.

La parábola de enaltecimiento y el desmoronamiento de Jruschov confirma el aforismo del jurista e historiador inglés, lord Acton: "El poder corrompe, el poder absoluto corrompe absolutamente". Durante el XX Congreso, Jruschov le decía al comunista italiano Pajetta: "Todos debemos aprender la democracia". El lo intentó sinceramente, pero fracasó: se lo impidió tanto la propia ignorancia como la creciente autosuficiencia y, por supuesto, los desvergonzados aduladores, quienes se abalanzaban contra cualquier opositor, gritando "¡dale duro!". Jruschov es el responsable de la proliferación y la omnipotencia de la burocracia, que finalmente lo desplazó a él mismo, por la selección de la dirigencia de entre el mismo mazo de barajas en vez de cambiarlas y recurrir a los partidarios de la democratización, sinceros, consecuentes, pensantes (aunque críticamente).

Por supuesto, la crítica es una medicina agria, y no resulta nada agradable escucharla, pero es necesaria y, cuanto más elevado sea el cargo, tanto mayor es la objetividad y precisión de las evaluaciones y decisiones que requiere. Lo que importa, no es aplastar el pluralismo de opiniones — tal como algunos reclaman —, sino, todo lo contrario, continuar y liberalizar las discusiones, una transparencia informativa genuina, y no a medias.

**Evgueni AMBARTSUMOV.**



*Microregión Yugo-Zapad en Minsk.* *Foto V. SHUBA.*

# La tragedia del bosque de Kurapati

**EN BIELORRUSIA SE ADELANTA LA INSTRUCCION DE UNO DE LOS CRIMENES DE FINALES DE LOS ANOS 30 Y COMIENZOS DE LOS 40**

**El semanario Litaratura i mastatstva (órgano de la Unión de Escritores de Bielorrusia) hace poco publicó en dos planas un material titulado "Kurapati: camino de la muerte". El artículo, de hecho, estremeció a toda la república.**

Basándose en testimonios de los testigos, los autores del artículo, Zenón Pozniak y Evgueni Shmigaliov, relataron que en el bosque pegado a la periferia norte de Minsk, de 1937 a 1941 diariamente se fusilaba a la gente que era traída en camiones. Parte del bosque de 10 a 15 hectáreas fue aislada por un cercado de más de tres metros de altura formado de gruesos maderos y coronado con alambre de púas. Tras las murallas se encontraba la custodia con perros. Los pobladores de las aldeas locales preferían dar un rodeo para no aproximarse a aquel terrible lugar, del cual día y noche se escuchaban disparos, lamentaciones, sollozos y súplicas... Mas entre la juventud no faltaban los valientes que desprendían tablas de madera y penetraban tras la cerca. Según las palabras de uno de ellos, Nikolái Karpóvich, actualmente jubilado de 70 años, la gente era asesinada en lotes: "metían mordaza a la boca de cada uno, los formaban en una línea y disparaban del lado con fusil a la cabeza del último, a fin de que una bala atravesara a los dos a la vez. A cada disparo, dos personas caían al foso... Cuando éste se llenaba de cadáveres, era rellenado con arena y aplanado. Tanto la [illegible]todia como aquellos que disp[illegible]ban llevaban el uniforme del Comisariato del Interior".

Testimonios semejantes abundan en el artículo. La gente afirma que los fusilamientos continuaron h[illegible] el propio inicio de la guerr[illegible] [illegible]urante la guerra los habitantes desarmaron el cercado para sus necesidades, y poco después talaron el propio bosque. Ahora en este lugar crecen 'rboles de postguerra, de 40-45 años. Hasta los últimos tiempos fue zona predilecta de los ciudadanos para el descanso en los días feriados. La gente que nada conocía sobre la terrible historia de Kurapati acudía al bosque para organizar picnic...

Pocos días después de la publicación, el Consejo de Ministros de Bielorrusia formó una comisión gubernamental para estudiar los hechos expuestos en el periódico. La fiscalía de la república entabló la acción judicial. Transcurrida una semana, por iniciativa de la opinión pública, en el bosque Kurapati se celebró un mitin en memoria a las víctimas de las represiones estalinistas, en el que participaron, como mínimo, 3 mil habitantes de Minsk. Fue el más prolongado mitin de los que alguna vez transcurrieron aquí, y duró cuatro horas.

La comisión gubernamental ya finaliza la primera etapa de su actividad, la exhumación de los restos mortales localizados en Kurapati. Mijail Savitski, miembro de la comisión, Pintor del Pueblo de la URSS, dice que la exhumación se efectúa bajo la supervisión de arqueólogos, en presencia de testigos, jueces de instrucción y peritos. Todo se protocola por escrito y se filma. Aquí trabajan documentalistas de cine, televisión y es frecuente la presencia de periodistas. Se comprobó la versión promovida en el artículo de que antes ya eran realizadas exhumaciones en Kurapati. "Le toca también a la comisión gubernamental aclarar quién, cuándo y con qué propósito lo hacía", dijo M. Savitski.

En Kurapati hay más de 500 sepulturas en total. Además, parte de las fosas fue eliminada cuando en este lugar se tendía el gasoducto y se construía la carretera.

El grupo de instrucción de la fiscalía interroga a los testigos, cuyas palabras se citan en el periódico, y busca a otros nuevos. Pronto se desplegarán pesquisas en los archivos del MININT y el KGB.

**Anatoli STUK.**
*Minsk*

# POR EL PROGRAMA DE LA UNESCO

El Comité Soviético para el programa de la Unesco "El Hombre y la Biósfera" distinguió con un diploma honorífico a un grupo de especialistas bielorrusos, autores de dos proyectos en esta materia. La metodología de análisis que ellos elaboraron para evaluar el microclima en los barrios residenciales permite perfeccionar las condiciones ecológicas en los parques, embalses y zonas forestales de las ciuadades bielorrusas, y contiene recomendaciones para mejorar el medio urbano y crear el mejor ambiente para el descanso de la población.

Las investigaciones se realizaron bajo la dirección del Instituto Científico de Urbanismo. Representantes de los comités de los países socialistas para el Programa "El Hombre y la Biósfera", en las conferencias celebradas en Budapest, Leipzig y Szczecin, valoraron muy en alto los proyectos en cuestión.

# MINSK "MENSAJERA DE LA PAZ"

En 1986, declarado por la Asamblea General de la ONU Año Internacianal de la Paz, Minsk, la capital de Bielorrusia, recibió — entre otras cincuenta ciudades de distintos países — el honorífico título "Mensajera de la Paz".

Como se señalara en la solemne reunión en la que se hizo entrega del diploma, los trabajadores de Minsk y de toda Bielorrusia habían hecho eco al llamamiento de la ONU y participado activamente en los programas del Año Internacional de la Paz.

Los asistentes al acto manifestaron estar dispuestos a continuar luchando por frenar la carrera armamentista, destruir todo tipo de armas de extermino masivo, fortalecer la amistad y la cooperación entre los pueblos.

Redactor de la «Página en español» D. OKULIK.

